ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 27 (2481) 4 ліпеня 1996 г.

Выдаецца з 1955 г. Цана 1000 рублёў.

АДЗІН ВЕЧАР З НІНАЙ ТАРАС

## СЦІПЛАЯ, СЛАБАЯ... МОЦНАЯ

З Нінай Тарас мы не бачыліся гадоў дзесяць, аднак часта паразвоньваліся, і я была больш-менш у курсе падзей яе нялёгкага самотнага жыцця, частых недамаганняў, калі голас у трубцы ледзь шапацеў і яна скардзілася, што не можа працаваць, ды і наогул сумнявалася, ці патрэбна каму тое, на што ідуць апошнія сілы. Ніна Міхайлаўна пазваніла праз колькі часу пасля свайго юбілею, запрасіла прыехаць і сказала, што хоча прапанаваць для друку нізку вершаў. Я ўзрадавалася магчымасці сустрэцца і была прыемна ўражана бадзёрым элегантным выглядам паэтэсы, яе жаданнем чытаць і каменціраваць свае вершы, успамінаць нейкія асабліва дарагія ёй старонкі жыцця, незабыўных сяброў.

-- Пра мяне, як пішуць, то найбольш згадваюць пра падполле, ваенные гады, калі я была партызанскай сувязной, -- гаварыла Ніна Міхайлаўна. -- А мне часцей успамінаецца ранейшы час, вучоба ў Навагрудскай і Віленскай беларускіх гімназіях, дзе я пачынала пісаць вершы. Да Мінска я так і не прывыкла, хоць пражыла тут палову жыцця. Мая радзіма Навагрудчына, вёска, дзе нарадзілася, блізка ад Свіцязі. Маімі нагамі сходжаны ўсе тыя мясціны, таму многа вершаў я прысвяціла Адаму Міцкевічу, перакладала яго творы на беларускую мову.

Рыхтуючыся да сустрэчы, Ніна Міхайлаўна расклала на стале старыя фатаграфіі. Адна з іх -- выпускнікі і настаўнікі Віленскай беларускай гімназіі -- часткова пашкоджана агнём. Разам з дакументамі, аўтографамі Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Танка яна хавала яе ў пограбе, а дом згарэў...

-- Аўтографы загінулі, і я вельмі шкадавала.

Разглядаючы пажоўклую фатаграфію 3-га класа Навагрудскай гімназіі, Ніна Міхайлаўна згадвала яе дырэктара Янку Ціхановіча.

-- Ён выкладаў у нас беларускую літаратуру. Настолькі здолеў прывіць любоў да паэзіі Якуба Коласа, што пад яго ўплывам я пачала пісаць вершы. А дырэктар, заўважыўшы мае здольнасці, заахвочваў, дапамагаў мне. Наогул, увесь калектыў гімназіі быў настроены на беларускасць, настаўнікі добра



ведалі творчасць Купалы, Коласа, Багдановіча, разам з намі рыхтавалі вечары, канцэрты, з якімі мы ездзілі па вёсках, спявалі беларускія песні, а хорам кіраваў Антон Валынчык, вядомы кампазітар і дырыжор. Настаўнікі нашы жылі надта бедна, зарплаты мелі нізкія, выкручваліся як маглі, выкладалі, хто што ўмеў. Адным словам, працавалі за ідэю. І моладзь была такая ж ідэйная. Улады ўвесь час прыдзіраліся, гразілі закрыць гімназію і закрылі ў 34-м годзе.

-- А што найбольш помніцца пра Віленскую гімназію?

-- Там была такая ж атмасфера. Часта ўспамінаю Хведара Ільяшэвіча. Ён даў заданне напісаць сачыненне, а я напісала апавяданне. Сюжэт быў праўдзівы. Мой бацька ездзіў у Навагрудак на рынак. Заўсёды браў з сабой і мяне. Палякі прыказвалі, каб пры кожным возе была прымацавана дошчачка з дакладным адрасам. Тым разам мы ехалі, і конь пырхнуў. Бацька кажа: "Нешта нам не павязе". Едзем сабе, быццам усё добра, а калі пад'язджалі да горада, паліцэйскі прыдраўся -- няма дошчачкі. І адправіў назад.

-- Ільяшэвіч быў задаволены вашай працай?

-- На ўвесь клас чытаў і паставіў пяцёрку.

-- А больш вы з ім не сутыкаліся?

-- Асабіста не. Ведаю, што ён пісаў вершы, выдаваў газету, Зіна Главінская, сяброўка мая, афармляла яе. Калі я пачала пісаць вершы, яны змяшчаліся ў насценнай газеце, адкуль іх браў і друкаваў Максім Танк, а потым іх упадабаў Рыгор Раманавіч Шырма.

-- Я бачу тут, на фотаздымку, Барыс Кіт. Пра яго што-небудзь можаце сказаць?

-- Кіта было тады яго прозвішча. Ён быў надзвычай стрыманы, добра выкладаў свой прадмет, але ні ў якія кантакты з вучнямі не ўваходзіў.

**НА ЗДЫМКУ: Ніна ТАРАС (пасляваеннае фота).**

**(Заканчэнне на 6-й стар.).**

*ПАСЛЯ ПАДАРОЖЖА Ў АЎСТРАЛІЮ*

## ПЕРАСЫХАЕ КРЫНІЧКА БЕЛАРУСКАСЦІ

Нават у самых смелых марах раней не магла сабе ўявіць, што некалі буду ехаць па Аўстраліі, спяваць беларускія песні. Прайшло амаль што два месяцы пасля вандроўкі, а мне ўсё яшчэ не верыцца, што сапраўды гэта было.

Ад'язджалі 16 сакавіка з халоднага зімовага Мінска, заваленага гурбамі снегу, потым адлёт самалётам польскай кампаніі з такой жа халоднай Варшавы. Праз 10 гадзін пасадка ў Бангкоку (Тайланд). Мусім пераапранацца ў летняе адзенне, тут трапічная спёка. Адчулі гарачы подых таямнічага Усходу, агромністага і так мала нам знаёмага абшару з укладам жыцця, які глыбока адрозніваецца ад нашага, своеасаблівай старажытнай культурай і сучаснай эканомікай.

Вялізны аэрапорт Бангкока цудоўна прыстасаваны да ўсіх патрэбаў паветраных падарожнікаў. Ніякіх невырашальных праблем тут не ўзнікае. Усё зручна, проста і зразумела кожнаму. Нас сустракаюць і праводзяць на пасадку ў самалёт Брытанскіх авіяліній -- вялізны аэробус "Боінг-747" больш як на чатыры сотні пасажыраў. Нас трое з Мінска: невялічкая дэлегацыя ЗБС "Бацькаўшчына" -- Ганна Сумрач і Ніна Петухова; урач-стаматолаг -- Таіса Ляонец. Едзем па запрашэнню Федэральнай рады беларусаў Аўстраліі.

Яшчэ 10 гадзін палёту, і нарэшце прызямляемся ў Мельбурне. Праходзім без усялякіх складанасцей аўстралійскі пагранічны і мытны кантроль.

Мельбурн -- другі пасля Сіднея па колькасці насельніцтва горад краіны (3,5 мільёна).

**НА ЗДЫМКУ: Мельбурн, каля Беларускага дому.**

**(Працяг на 5-й стар.).**



ГЭТА З НАМІ БЫЛО

## ВОСТРАЎ ЛЮДАЕДАЎ

**І.В.СТАЛІНУ**
**Р.І.ЭЙХЕ**
**Сакратару Нарымскага Акругкома ВКП(б)**
**К.І.ЛЕВІЦ**

*(Зусім сакрэтна).*
*22 жніўня 1933 года.*

"29 и 30 апреля этого года из Москвы и Минска были отправлены на трудовое поселение два эшелона деклассированных элементов. Эти эшелоны, подбирая по пути следования подобный же контингент, прибыли в Томск, а затем на баржах в Нарымский округ.

18 мая первый и 26 мая второй эшелоны, состоя из трех барж, были высажены на реке Оби у устья р.Назина, на остров Назино, против остяцко-русского поселка и пристани того же названия (Александровский район, северная окраина Нарымского округа)"... (Из спецсообщения УНКВД по Запсибкраю).

Аб якіх жа "дэкласаваных элементах" ішла размова ў такім сакрэтным дакуменце? Аказваецца, гэтыя "элементы" з'явіліся ў справаздачах НКУС пасля выхаду пастановы ЦВК і СНК СССР ад 27 снежня 1932 года аб увядзенні пашпартнай сістэмы.

Менавіта на востраў Назіно 18 мая 1933 года была дастаўлена і высаджана першая партыя "элемента гарадскога тыпу", людзей, затрыманых у асноўным у Мінску і Маскве як беспашпартных -- 4 900 чалавек. Другая партыя колькасцю 1 174 чалавекі паступіла 27 мая. Да 12 чэрвеня было зарэгістравана 1 473 памерлых. К зіме загінулі амаль усе. З 10 289 чалавек, што прыбылі ў Аляксандра-Вахтаўскую камендатуру, да восені засталося 2 025 чалавек; 1 940 адпраўлены ў канцлагеры, 3 196 памерлі, 3 916 уцяклі.

**(Заканчэнне на 3-й стар.).**

# ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

ВЫШЭЙШЫ САВЕТ ВЫРАШЫЎ



22 чэрвеня ў дзень 55-годдзя з дня пачатку Вялікай Айчыннай вайны ў Брэсцкай крэпасці прайшоў тэлерадыёмарафон. У Дзень смутку крэпасць-герой наведаў Прэзідэнт Расійскай Федэрацыі Барыс Ельцын і Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка.

Пасля цырымоніі ў Брэсцкай крэпасці адбылося пасяджэнне Вышэйшага Савета Супольніцтва Беларусі і Расіі, у якім прынялі ўдзел прэзідэнты і іншыя кіраўнікі дзвюх дзяржаў. Падпісана шэсць важных дакументаў. Згодна з імі, цяпер жыхары Беларусі і Расіі, у прыватнасці, атрымаюць роўныя правы пры працаўладкаванні, здымаюцца ўсякія бар'еры пры абмене жылплошчы, ствараецца адзіны мытны камітэт.

НА ЗДЫМКУ: пасяджэнне Вышэйшага Савета Супольнасці.

ЭКСЦЭСАЎ НЕ БЫЛО

## АЛЬТЭРНАТЫЎНАЯ АКЦЫЯ




Дарэмнымі аказаліся заклікі парламента і ўрада Беларусі да палітычных партый і грамадскіх рухаў устрымацца 22 чэрвеня ад палітычных акцый, не дапусціць канфрантацыі і процістаяння розных сацыяльных слаёў і груп грамадства. У гэты дзень, аб'яўлены ў краіне Днём агульнанароднай памяці і смутку, процістаянне ў Мінску ўсё ж было.

На плошчу Перамогі следам за калонай, у якой ішлі кіраўнікі дзяржавы і беларускай сталіцы, ветэраны вайны і працы, прадстаўнікі працоўных калектываў з усіх раёнаў горада, на значным аддаленні праследавала калона маніфестантаў пад бел-чырвона-белымі флагамі. Яе арганізатарам выступіў БНФ, атрымаўшы на гэта санкцыю ад уладаў. Па ацэнках супрацоўнікаў МУС, у "афіцыйнай" калоне было каля 5 тысяч чалавек, у другой -- больш 3 тысяч.

Усклаўшы вянкі і кветкі да падножжа абеліска, "альтэрнатыўная" калона накіравалася на плошчу Парыжскай камуны, дзе адбыўся масавы мітынг. Прамоўцы, а сярод іх былі прадстаўнікі БНФ Юры Хадыка, Лявон Баршчэўскі, Юры Беленькі, дэпутаты Вярхоўнага Савета Генадзь Карпенка, Людміла Грязнова і іншыя, гаварылі аб вялікай трагедыі беларускага народа, што напаткала яго 55 гадоў назад, калі на краіну напалі гітлераўцы. На думку некаторых выступоўцаў, беларусы, стаўшы заложнікамі барацьбы за перадзел свету, былі вымушаны весці вайну "на два фронты".

Мітынг працягваўся каля гадзіны. Якіх-небудзь эксцэсаў і сутыкненняў маніфестантаў з сіламі аховы правапарадку не было.

НА ЗДЫМКУ: калона ветэранаў пад дзяржаўнымі і чырвонымі сцягамі накіроўваецца да плошчы Перамогі.

ПАЗІЦЫЯ УКРАІНЫ

## ПЕРАШКОДА НА ШЛЯХУ Ў САВЕТ ЕЎРОПЫ

Нядаўна міністры юстыцыі Беларусі і Украіны сустракаліся ў Будапешце на еўрапейскай канферэнцыі. Як паведаміў на брыфінгу ў сталіцы Украіны міністр юстыцыі гэтай краіны Сяргей Галаваты, у час гутаркі з беларускім калегам Валянцінам Сукала ён падкрэсліў, што ўтрыманне пад вартай шасці ўкраінскіх грамадзян, якія прымалі ўдзел у чарнобыльскай акцыі ў Мінску 26 красавіка, можа адмоўна паўплываць на ўкраінска-беларускія адносіны. У прыватнасці, на падтрымку Украінай уступлення Беларусі ў Савет Еўропы.

ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

## "ЖАЛЕЗНАЯ ЗАСЛОНА" ДЛЯ ЧЫНОЎНІКАЎ

Аб увядзенні з 1 ліпеня своеасаблівай "жалезнай заслоны" для беларускіх чыноўнікаў аб'явіў Прэзідэнт рэспублікі Аляксандр Лукашэнка. З гэтага часу ўсе замежныя паездкі прадстаўнікоў выканаўчай улады ўсіх узроўняў, дэпутатаў Вярхоўнага Савета Беларусі, кіраўнікоў дзяржаўных прадпрыемстваў, устаноў і арганізацый будуць ажыццяўляцца толькі пасля ўзгаднення з кіраўніком дзяржавы.

Такая мера, па словах Аляксандра Лукашэнкі, уводзіцца ў сувязі з тым, што ў другім квартале гэтага года ў рэспубліцы будзе ажыццяўляцца жорсткі рэжым эканоміі грашовых рэсурсаў, і перш за ўсё валютных.

## ЗНОЎ РЭФЕРЭНДУМ

Магчыма, у недалёкай будучыні ў нашай рэспубліцы будзе праведзены чарговы рэферэндум. Аб гэтым заявіў Прэзідэнт краіны Аляксандр Лукашэнка ў час нядаўняй рэспубліканскай нарады, прысвечанай рэфармаванню сацыяльна-культурнай сферы.

Мяркуецца, што кіраўнік дзяржавы "параіцца з народам" па наступных праблемах: аб прыватнай уласнасці на зямлю, аб унясенні неабходных змяненняў у існуючую Канстытуцыю, аб упарадкаванні структуры мясцовых органаў кіравання, а таксама па пытанню аб прасоўванні НАТА на Усход.

КУРС РУБЛЯ

## НЕ ЗМЕНІЦЦА

Значнай дэвальвацыі беларускага рубля, якой чакаюць многія ў бліжэйшы час, не адбудзецца. Аб гэтым заявіў Прэзідэнт краіны Аляксандр Лукашэнка, які хутка падпіша ўказ, што датычыць рэгулявання курса нацыянальнай валюты.

Як адзначыў кіраўнік дзяржавы, урад рэспублікі прыклаў нямала намаганняў, каб знізіць інфляцыю. Паводле слоў Прэзідэнта, дэвальвацыя беларускага рубля выклікала б рэзкі рост цэн.

"Курса 15--17 тысяч "зайчыкаў" за адзін [illegible]р не будзе ў самай агляднай будучыні", -- заяв[illegible] Аляксандр Лукашэнка.

СТЫХІЯ

## ПА ПІНШЧЫНЕ ПРАНЁССЯ СМЕРЧ

Познім вечарам 22 чэрвеня над пасёлкам Лагішын Пінскага раёна пранёсся смерч. Паводле звестак Белгідрамета, ён узнік на стыку цёплых і халодных паветраных мас і насіў лакальны характар. Смерч суправаджаўся моцным дажджом, парывы ветру перавышалі 20 метраў у секунду.

Як паведамілі карэспандэнту БЕЛТА ў абласным штабе грамадзянскай абароны, ад стыхіі пацярпела 56 будынкаў, у тым ліку харчаблок мясцовай бальніцы і хлебапякарня. Парывамі ветру з іх былі сарваны дахі і выбіты вокны. Акрамя таго, разбурана каля двух кіламетраў ліній электраперадачы. Ахвяр няма.

НА АЛІМПІЯДУ



Першай на Алімпійскія гульні ў Атланту адпраўляецца зборная каманда Рэспублікі Беларусь па спартыўнай гімнастыцы. Напярэдадні ад'езду спартсменаў прынялі ў Міністэрстве спорту і турызму. Міністр спорту і старшыня Нацыянальнага алімпійскага камітэта Уладзімір Рыжанкоў і іншыя спартыўныя кіраўнікі ўручылі гімнастам і трэнерам сувеніры і пажадалі ўдалых стартаў у Атланце.

НА ЗДЫМКУ: члены зборнай каманды, якая адпраўляецца ў Атланту.

СТАТЫСТЫКА ВАЙНЫ

## ДЫК КОЛЬКІ Ж НАС ЗАГІНУЛА?

На думку работнікаў Цэнтральнага ваенна-медыцынскага архіва, які знаходзіцца ў Санкт-Пецярбургу, лічба 20 000 000 грамадзян Савецкага Саюза, што загінулі за ўвесь перыяд Вялікай Айчыннай вайны, вельмі прыменшана.

ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

У архіве захоўваецца больш трыццаці двух мільёнаў гісторый хвароб раненых і памершых ад ран. Гэта толькі за апошнія два гады вайны. За 1941 і 1942 гады ў архіве даных няма з-за адступлення Савецкай Арміі, у час якога весткі ў цэнтральныя медыцынскія ўстановы не паступалі. Прыплюсуйце да гэтага вялікую колькасць так званых "прапаўшых без вестак", косці якіх да сённяшняга дня багата пакрываюць лясы і палі Расіі, Беларусі, Украіны і іншых краін.

Рэальная лічба страт Савецкага Саюза ў другой сусветнай вайне вагаецца, па розных крыніцах, паміж 40 і 50 мільёнамі чалавек.

ПАРЛАМЕНЦКІ СХОД



Першая сесія Парламенцкага Сходу Супольніцтва Расіі і Беларусі адбылася ў Смаленску. Беларускія і расійскія парламентарыі абмеркавалі шэраг пытанняў, у прыватнасці, вызначылі колькасць і назву камісій, якія будуць існаваць у рамках Парламенцкага Сходу.

На першай сесіі Парламенцкага сходу выбраны яго Старшыня. Ім стаў Сямён Шарэцкі.

НА ЗДЫМКУ: у час пасяджэння Парламенцкага сходу Супольніцтва Расіі і Беларусі.

ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ

ВЫЙШЛА з друку кніга Мечыслава Грыба "На гістарычным скрыжаванні". У ёй змешчаны газетныя публікацыі былога Старшыні Вярхоўнага Савета Беларусі, які падпісаў першую Канстытуцыю рэспублікі, яго выступленні на міжнародных і нацыянальных форумах, шматлікія фотаілюстрацыі.

ВАЙСКОВАЯ РАДА Беларускага згуртавання вайскоўцаў выключыла са сваіх шэрагаў старшага лейтэнанта запасу, былога дэпутата Вярхоўнага Савета Беларусі і старшыню Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады Алега Трусава. Яму ставіцца ў віну падтрымка Дагавора аб утварэнні ССР і тое, што ён не прымаў удзелу ў масавых акцыях пратэсту ў Мінску вясной гэтага года.

У НЯДАЎНА утвораны Сацыял-дэмакратычны саюз увайшла чацвёртая партыя. Да Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады, Партыі народнай згоды і Партыі ўсебеларускага адзінства і згоды далучыўся Сацыял-дэмакратычны саюз. На аб'яднаўчым з'ездзе плануецца ўтварыць новую арганізацыю -- Беларускую сацыял-дэмакратычную партыю.

КІПР ужо вядомы беларусам як выдатнае месца адпачынку, куды любяць ездзіць тыя, хто мае дастаткова грошай. Хутка, відаць, гэта дзяржава стане яшчэ і добрым партнёрам для людзей прадпрымальных, якія маюць намер заняцца выпускам і продажам прадукцыі харчовай і лёгкай прамысловасці. Плануецца, што ў горадзе Лімасол ужо сёлета будзе адкрыты Беларуска-кіпрскі гандлёвы дом.

НА СТАНЦЫІ Баравуха-1, пад Полацкам, адкрыта мемарыяльная дошка, якая сведчыць: "Тут у 1916 годзе служыў старшым рабочым дарожна-будаўнічага атрада Варшаўскай акругі шляхоў зносін беларускі паэт Янка Купала". Аўтар дошкі -- мінскі мастак Алесь Міронічык. А ў Полацку створаны філіял Міжнароднага фонду імя Янкі Купалы.

У ЧАЧЭРСКУ адбыўся III рэспубліканскі фестываль народнага танца "Беларуская полька". Больш за 30 калектываў прынялі ў ім удзел -- з усіх абласцей краіны. Былі таксама госці з Украіны. Фестываль стаў святам адраджэння беларускіх народных традыцый і звычаяў.

ТРОЕ невядомых праніклі ноччу ў кватэру журналіста Юрыя Дракахруста, аглядальніка "Белорусской деловой газеты" і ўласнага карэспандэнта радыё "Свабода". Сам Ю.Дракахруст быў у замежнай камандзіроўцы. Збіўшы яго жонку да непрытомнасці, яны папярэдзілі: "Перадасі пра гэта мужу". Ю.Дракахруст лічыць, што напад на яго кватэру зроблены па палітычных матывах.

## "ТАІР" СУСТРАКАЕ ЎСМЕШКАЙ




**Жыхары вялікага сталічнага мікраэаёна Паўднёвы Захад атрымалі ад вядомай мінскай фірмы "Таір" добры падарунак -- новы, пабудаваны і абсталяваны па еўрапейскіх стандартах Дом гандлю. Размясціўся ён па вуліцы Алібегава, 13. Тут прыгожы інтэр'ер гандлёвай залы, багацце разнастайных тавараў, разлічаных на пакупніка з розным дастаткам. Гандлёвая зала ўражвае сваёй прасторай, свежым паветрам, зручнасцю. Работнікі магазіна імкнуцца выкарыстаць 650 квадратных метраў гандлёвых плошчаў з максімальнай карысцю. Ля шасці кас практычна не бывае чэргаў. Ветлівасць і ўвага касіраў і прадаўцоў да пакупнікоў сталі візітнай карткай "Таіра".**

**З 1 чэрвеня гандлёвы дом "Таір" працуе кругласутачна. Ярка свецяцца ўначы агні вялікага магазіна, падобнага здалёк на карабель.**

**-- Наш магазін, -- гаворыць яго дырэктар Аляксандр Сталярскі, -- стварыў не толькі зручнасці для жыхароў бліжэйшых жылых кварталаў, але і прадаставіў мінчанам больш ста рабочых месцаў, што немалаважна ў наш час. Каб забяспечыць пакупніка такім шырокім асартыментам тавараў, мы супрацоўнічаем больш чым з 500 пастаўшчыкамі, большая частка якіх -- прадпрыемствы нашай рэспублікі, прыватныя прадпрымальнікі, фермеры, калгасы і саўгасы. Ідэальная вентыляцыя і чысціня, за якую адказвае аднолькава кожны супрацоўнік, ад дырэктара да прыбіральшчыцы, надае "Таіру" тую камфортнасць, якую, я думаю, мяркуючы па тавараабароту, ацанілі нашы пакупнікі.**

**Святлана С[illegible]ЧАВА.**

**НА ЗДЫМКУ: у гандлёвай зале.**

**Фота Аркадзя НІКАЛАЕВА.**

## ПРАСТОІ НОСЯЦЬ ХРАНІЧНЫ ХАРАКТАР

Экспрэс-апытанне кіраўнікоў 50 буйных прадпрыемстваў горада, што рэгулярна праводзіцца спецыялістамі Мінскага гарадскога цэнтра занятасці насельніцтва (МГЦЗН), паказвае, што парушэнні нармальнага рэжыму працы на многіх з іх набылі хранічны характар.

Так, у снежні 1995 года -- студзені 1996 года 30 прадпрыемстваў з гэтага спісу не працавалі ад некалькіх дзён да некалькіх тыдняў ці (большасць) працавалі няпоўны рабочы тыдзень і адпраўлялі работнікаў у неаплатныя ці часткова аплатныя водпускі. У лютым--сакавіку бягучага года значныя страты рабочага часу былі адзначаны на 28 прадпрыемствах.

На Мінскім камвольным камбінаце асобныя вытворчасці працуюць па спецыяльнаму графіку, а страты рабочага часу дасягаюць 50 працэнтаў. У лютым--сакавіку Мінскі аўтазавод поўнасцю не працаваў на працягу 10 дзён, і амаль кожны дзесяты работнік быў заняты 3--4 дні на тыдзень. Адносна стабільны завод колавых цягачоў у сакавіку прастаяў 6 дзён, а кожны трэці работнік знаходзіўся ў двухтыднёвым часткова аплатным ці неаплатным водпуску. На Мінскім трактарным заводзе страты за снежань-студзень склалі 23 чалавека-дні на работніка, у лютым--сакавіку -- каля 7. За гэты ж перыяд завод "Аптрон" не прарабіў ніводнага поўнага дня.

Такія буйныя прадпрыемствы, як Мінскі завод ацяпляльнага абсталявання, завод "Ударнік", вытворчае аб'яднанне "БелВАР", завод імя Арджанікідзе, гадзіннікавы завод, электратэхнічны завод і некаторыя іншыя, у лютым--сакавіку працавалі ў рэжыме няпоўнага рабочага тыдня.

Паўнадзённыя прастоі ў прамысловасці горада склалі ў першым квартале 1 415 тысяч чалавека-дзён (па рабочых спецыяльнасцях), ці 1/5 ад табельнага фонду рабочага часу. У сакавіку ў водпускі па ініцыятыве адміністрацыі адпраўлена 6,5 тысячы чалавек, а сярэдняя працягласць такога водпуску склала 9,8 дня.

У абсалютным вымярэнні найбольшыя страты дапушчаны на прадпрыемствах машынабудавання і металаапрацоўкі і лёгкай прамысловасці. У асноўным прастоі звязаны з недахопам сродкаў для набыцця матэрыяльных рэсурсаў і цяжкасцямі збыту прадукцыі.

Сумарная велічыня страт рабочага часу ў прамысловасці ў І квартале раўназначная наяўнасці скрытага беспрацоўя ў гэтай галіне ў памеры 32,8 тысячы чалавек. З яе ўлікам узровень беспрацоўя ў Мінску склаў у студзені--сакавіку 5,5 працэнта.

Паводле звестак, што прадстаўлены прадпрыемствамі ў цэнтр занятасці, у маі павінна было завяршыцца масавае вызваленне рабочай сілы на 21 прадпрыемстве горада, пачатае ў лютым. Пры гэтым скарачэнне штатаў праводзіцца на 9 прадпрыемствах, а 12 -- ліквідуюцца па розных прычынах. У спісе "на ліквідацыю" пакуль няма буйных прадпрыемстваў, але сярод іх такія вядомыя, як друкарня імя Ф. Скарыны і выдавецтва "Навука і тэхніка" Акадэміі навук, Рэспубліканскі палац піянераў і школьнікаў.

**Таццяна СТРУК,**
**вядучы спецыяліст МГЦЗН.**
*("Белорусский рынок").*

# ВОСТРАЎ ЛЮДАЕДАЎ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

Гэтыя лічбы з афіцыйных архіўных, нядаўна яшчэ зусім сакрэтных дакументаў.

Што ж за трагедыя разыгралася на Назінскім востраве ў далёкім Заходне-Сібірскім краі?

На другі дзень прыбыцця першага эшалона, 19 мая, выпаў снег, узняўся ледзяны вецер, потым ударыў мароз. Галодныя, знясіленыя людзі, без даху, не маючы ніякіх інструментаў і, у галоўнай сваёй масе, працоўных навыкаў і тым больш навыкаў арганізаванай барацьбы з цяжкасцямі, апынуліся ў бязвыхадным становішчы. Абледзянелыя, яны былі здольныя толькі паліць кастры, сядзець, ляжаць, спаць ля агню, хадзіць па востраве і есці гнілушкі, кару, асабліва мох, і інш. Цяжка сказаць, ці была магчымасць рабіць што-небудзь іншае, таму што трое сутак нікому ніякага харчавання не выдавалася. Па востраве пайшлі кастры, дым.

Людзі пачалі паміраць.

Яны зажыва згаралі ля кастроў у час сну, паміралі ад знясільвання і холаду, ад апёкаў і сырасці. Так цяжка пераносіўся холад, што адзін з перасяленцаў залез у палаючае дупло і загінуў там на вачах людзей, якія не маглі дапамагчы яму: не было ні лесвіцы, ні сякер. У першыя суткі пасля сонечнага дня брыгада магільшчыкаў змагла закапаць толькі 295 трупаў, несабраных пакінулі на другі дзень. Новы дзень даў новую смяротнасць і г.д.

Пасля снегу і марозу пачаліся дажджы і халодныя вятры, але людзі ўсё яшчэ заставаліся без харчавання. Толькі на чацвёрты дзень прыбыла на востраў жытняя мука. Яе пачалі раздаваць па некалькі сот грамаў. Людзі тут жа беглі да вады і ў шапках, фуражках, галёшах разводзілі баўтуху. Многія хапалі адну муку, задыхаліся і паміралі ад удушша.

Пакуль жылі на востраве -- посуд[illegible]е карысталіся. Не было лыжак, кубкаў, м[illegible]ак. Гэта было яшчэ нічога. Не было ні вёдраў, ні катлоў, а значыць, і кіпеню. Найбольш прадпрымальныя пяклі праснакі на кастры, але і такое харчаванне не ратавала. Спачатку зрэдку ў аддаленых кутах вострава, а п[illegible]ым у пагражальных памерах пайшло лю[illegible]цства.

Сведчыць Меньшыкава Таіса Міхайлаўна, 1908 года нараджэння, ураджэнка Мінска: "На востраве канваір быў, Венікаў Косця, малады хлопец. Падабалася яму на востраве адна дзяўчынка. Ён усё пільнаваў яе. Надумаўся раз паехаць памыцца, таварышу наказаў: "Вы за ёю паглядвайце", -- а ён што, столькі народу... А яе прывязалі, рукі назад да тапаліны і грудзі адрэзалі ёй, лыткі адрэзалі, мускулы -- дзе можна есці, усё-усё... Галодныя яны, есці трэба. Хлопцу не пашанцавала. Гэта вось такія былі зверствы. Чалавечае мяса рэзалі і прывязвалі ў анучах на дрэвах..."

Аднак побач з гэтым вядомая частка жыла ніштавата, хаця ў яе не было, як ва ўсіх, тлушчаў, а адна мука. Такое становішча тлумачылася метадамі арганізацыі людзей. На востраве быў камендант, стралкі ВАХР, медработнікі і, вядома, каптэрнамусы. Мука знаходзілася пад адкрытым небам і сапсавалася ад дажджу. Нягледзячы на людаедства, камендатура вострава закапала яе ў зямлю. Рэшткі, што выдаваліся, траплялі далёка не ўсім. Яе атрымлівалі так званыя брыгадзіры, адпетыя крымінальнікі. Атрымаўшы мяшкі на "брыгаду", яны неслі іх у лес, а брыгада заставалася без харчу. Няздольнасць ці нежаданне арганізаваць абслугоўванне людзей даходзіла да таго, што калі муку прывозілі, раздаваць яе спрабавалі нават у парадку жывой чаргі. Галодныя людзі тоўпіліся, па іх хаатычна стралялі.

Трэба думаць, камендатура вострава і яе ваенныя работнікі, па-першае, мала разумелі свае задачы ў адносінах да людзей, якія былі падначаленымі, а, па-другое, разгубіліся ад узнікшай катастрофы. Інакш нельга расцэньваць зацверджаную сістэму збівання перасяленцаў палкамі і прыкладамі вінтовак, індывідуальныя іх расстрэлы. На востраве ўтварыліся і панавалі марадзёрскія банды і шайкі. Крымінальнікі, што ўзначальвалі іх, тэрарызавалі людзей яшчэ ў баржах, адбіраючы ў працаперасяленцаў хлеб, адзенне, збіваючы іх і забіваючы. Тут жа на востраве адкрылася сапраўднае паляванне на людзей, на тых, у каго былі грошы ці залатыя зубы, каронкі. Іх уладальнікі знікалі вельмі хутка. Магільшчыкі закопвалі трупы з развернутымі сківіцамі.

Марадзёрства захапіла і некаторых вартавых, якія за хлеб і махорку скуплялі золата, адзенне. На востраве ўстанавіліся цэны: новая сукенка ці касцюм -- палавіна бохана хлеба ці пачак махоркі; пачак махоркі -- 300 рублёў, два залатыя зубы ці чатыры каронкі. Разбой узмацняўся, смяротнасць расла.

У аналагічнае становішча трапіў і другі эшалон, які хутка ўспрыняў парадкі вострава смерці. Але блізілася сапраўдная вясна. У канцы мая пачалася адпраўка людзей на так званыя ўчасткі, г.зн. месцы, адведзеныя пад пасёлкі.

Участкі былі размешчаны па рацэ Назіна за 200 кіламетраў ад вусця: да іх падніமаліся на лодках. Участкі аказаліся ў глухой непраходнай тайзе, таксама не падрыхтаванай для рассялення. Знясіленне людзей працягвалася. Дастаткова прывесці такі факт. На пяты ўчастак з вострава прыйшла лодка з 78 пасяленцамі. З іх жывымі засталося толькі дванаццаць.

Участкі ў выніку былі прызнаны непрыдатнымі, працоўных перасяленцаў сталі перамяшчаць на новыя месцы, уніз па той жа рацэ, бліжэй да вусця.

Уцёкі, што пачаліся яшчэ на востраве (там гэта зрабіць было цяжка: шырыня Обі каля кіламетра, ішоў яшчэ лёд. -- **І.К.**), тут прынялі масавыя памеры. У адказ пайшлі розныя правакацыі. Найважнейшыя з іх дзве: маўляў, па-першае, вырашана знішчыць дэкласіраваны элемент; а, па-другое, за 40 кіламетраў чыгунка (сапраўды ж да бліжэйшай станцыі было больш за 400 кіламетраў. -- **І.К.**). Апошняе "пацвярджалася" тым, што на адным з участкаў у яснае надвор'е чуваць былі аддаленыя гукі гармоніка, крык пеўня і гукі, падобныя на гудок. Гэта быў маленечкі пасёлак, ад якога ўчастак аддзяляла непраходнае балота. Людзі, не ведаючы, дзе яны, уцякалі ў тайгу, плылі на плытах, гінулі ці вярталіся назад.

Пасля рассялення на новых участках будаўніцтва паўземляных баракаў, вошабоек і лазняў пачалі толькі ў другой палове ліпеня. Жыццё пачынала ўваходзіць у сваё рэчышча -- з'явілася работа, аднак расстройства арганізмаў было такім вялікім, што людзі, нават з'ядаючы па 750--1 000 грамаў хлеба, працягвалі хварэць і паміраць.

Трэба заўважыць, што ўсё апісанае так прымільгалася начсаставу і работнікам большасці ўчасткаў, што трупы, якія ляжалі на сцяжынках, у лесе, плылі па рацэ, прыбіваліся да берагоў, ужо не бянтэжылі. Больш таго, чалавек пераставаў быць чалавекам. У выніку з 6 100 высланых, што прыбылі з Томска, плюс да іх яшчэ 600-700 чалавек (дакладную лічбу ўстанавіць не ўдалося. -- **І.К.**), перакінутых на назінскія ўчасткі з іншых камендатур, на 20 ліпеня 1933 года засталося 2 200.

Усё гэта, асабліва востраў, засталося незабыўным ва ўсіх тых, хто застаўся жывым, нават у адпетых рэцыдывістаў, што шмат пабачылі на сваім вяку. Назінскі востраў быў прazваны востравам Смерці (радзей -- востраў Людаедаў). Мясцовае насельніцтва засвоіла гэтую назву, а чуткі аб тым, што тут было, папаўзлі ўніз і ўверх па рэках.

У канцы 1933 года сюды з Новасібірска прыйшло адразу два параходы з пустымі баржамі. Сіблаг вырашыў эвакуіраваць тых, хто застаўся жывым. Палова назінцаў не магла сваім ходам прайсці па трапах на баржу, такія яны былі хворыя і знясіленыя. Іх неслі на насілках і складвалі радамі ў трумах. Катэр "Быстры" на малых баржах падвозіў тых, хто застаўся ў жывых з пасёлкаў. У кожным пасёлку недалічваліся многіх.

Пасля заканчэння "эвакуацыі" Аляксандра-Вахтаўская ўчастковая камендатура "падбіла бабкі". Прыняла яна звыш 6 000 чалавек, а адправіла 2 856. Астатнія пайшлі на "натуральныя страты".

Колькі ўсяго іх было -- цяжка сказаць. Гэтак жа цяжка сказаць, ХТО яны, таму што дакументы адбіраліся і пры арышце, і ў эшалонах і баржах (рэцыдывістамі на курэнне). Тое, што засталося, было знішчана часткова на востраве, часткова потым органамі дзяржбяспекі, каб замесці сляды злачынства. Відавочна, ніколі ўжо не ўдасца адказаць на гэтае пытанне.

**Ігар КУЗНЯЦОЎ,**
**кандыдат гістарычных навук.**

## ПІСЬМЫ З-ЗА МЯЖЫ

# «СЛАВЯНСКІ КІРМАШ-96»

Украінская газета "Украіна молода" ў 48 нумары ад 31 траўня змясціла артыкул Алены Сідарэнкі "Передмова до"Слов'янского базару-96". Думаю, што беларускім чытачам будзе цікава з ім пазнаёміцца, а будучым удзельнікам "Кірмашу-96" у Віцебску зрабіць для сябе такія-сякія высновы і... прыняць контрмеры.

Артыкул пачынаецца вось з такой думкі яго аўтаркі: "Суперпрэстыжны фестываль "Славянскі кірмаш" ніколі не быў бы такім, калі б у ім не брала ўдзелу песенная, таленавітая дзяржава Украіна. Украінскія выканаўцы на конкурсе маладых спевакоў атрымалі гэтулькі ўзнагарод, колькі не ўдастойваліся расейскія ды беларускія канкурсанты, разам узятыя. У гэтым годзе Украіна падрыхтавала такі склад удзельнікаў, які не парушыць слаўных традыцый перамагаць на "Славянскім кірмашы".

Як бачым з уступу, на сціпласць спадарыня Алена не хварэе. Адкуль жа ў яе такая ўпэўненасць у тым, што і на "Кірмашы-96" украінскія спевакі перамогуць у конкурсе маладых выканаўцаў?! Паспрабуем пра гэта даведацца з артыкула, які падаю поўнасцю без свайго каментару...

"Днямі ў гасцінным двары "Андрыіўскі" адбылася прэсавая канферэнцыя, на якой новы "патрон" украінскай дэлегацыі, генеральны дырэктар Украінскага цэнтра мастацтва ў Маскве, прадзюсер Хведар Палянін, прэс-аташэ Вольга Кунгурцава ды член журы конкурсу Юры Рыбчынскі назвалі да ведама грамадскасці імёны трох пераможцаў адборачнага туру, які праводзіўся на УТ-2 праз перагляд відэакасет. Такім чынам, у Віцебску Украіну будуць прадстаўляць Руслана (Львоў), Самая (Кіеў) ды Сяргей В'язкоўскі (Палтава). Руслана -- пакуль што самая вядомая з трох выканаўцаў-пераможцаў адборачнага туру на УТ-2, вучыцца ў Львоўскай кансерваторыі. Два гады таму назад яна атрымала Гран-пры першага фестывалю "Мелодыя" (за песню Яўгена Рыбчынскага "Клён аблятае чырвоны").

Самая -- вельмі экзатычная спявачка з цудоўным моцным голасам, але, здаецца, яе сцэнічны вобраз не да канца сфарміраваны. Ёсць сэнс пракансультавацца з стылістам ды рэжысёрам (на конкурсе гэта толькі дапаможа). Сяргей В'язкоўскі -- загадкавы спявак, "зорка" незасвечаная, рэдкасны тэнар, які ў стане даць фору Меладзе ды Малініну.

Для нашых канкурсантаў няма аніякіх тэхнічных складанасцяў у вакале, таму ўмовы конкурсу: дзве песні пад акампанемент аркестру ды мінусовай фанаграмы легказдзейсненыя.

Апроч конкурсу -- цэнтральнай падзеі фестывалю, запланавана яшчэ шмат іншых мерапрыемстваў. Будуць традыцыйныя сольныя канцэрты Юрыя Антонава, Людмілы Зыкінай, Сафіі Ратару, індывідуальны пінг-понг для прэсы -- "Рандэву з зоркаю" -- з Міхаілам Жванецкім, братамі Янкоўскімі, Карэлам Готам; начны "Дыска-базар" з самымі вядомымі дансінгавымі артыстамі: шоу для элегійна-вытанчанай публікі -- "Джаз-клуб". Апроч гэтага, шмат новаўвядзенняў. Канцэрт "Мелодыі сяброў" збярэ найвядомейшых выканаўцаў з розных краін, якія будуць выконваць усім вядомыя шлягеры. На фестывалі гумару "Залаты Астап" заяўлены Міхаіл Жванецкі. "Маскі-шоу", "Адэскія джэнтльмены", "Кролікі" ды "Верка Сердзючка" (яна ж Андрэй Данілка). У рамках "Кінатауру" пройдзе прагляд лепшых лент украінскіх кінематаграфістаў. Упершыню адбудзецца фестываль прэсы, які падрыхтаваў прызы лепшым журналістам "фестывальнай пяцігодкі". Як вычайна, будзе і дзіцячае свята, і конкурс прыгажосці "Міс славянка".

У параўнанні з мінулымі гадамі будзе лепшым і становішча [illegible] прамым эфірам, адкрыццё[illegible]ы закрыццём фестывал[illegible] і ўдзелу ў ім украінскіх артыстаў. Ва ўсялякім разе гэта абяцае Хведар Палянін: "Я ніколі не дапушчу, каб украінскія спевакі адчувалі сябе горш за расейскіх, [illegible]ым больш, каб Украіну у[illegible]імалі на другіх ролях, як на[illegible]сала адна з маскоўскіх газет. Такога не будзе!" А трэба прызнаць, што Палянін змог вярнуць на фестываль "Дзень Украіны" -- цудоўнае свята з найвыдатнейшымі нашымі артыстамі Таісай Павалій, Сафіяй Ратару, Паўлам Зібровым, Васілем Зінкевічам, Наталкай Магілеўскай, Алексаю Бэрэстам і дабіўся, каб на "Рандэву з зоркай" ззяла ўкраінская "зорка" -- Сафія Ратару. Перспектывы фестывалю вельмі прываблівыя, застаецца толькі дачакацца яго. Тэрмін правядзення -- ад 11 да 17 ліпеня".

...Такі вось артыкул спадарыні Алены Сідарэнкі. Дарэчы, ён ужо не першы ва ўкраінскай прэсе. Мне даводзілася чытаць у адной з самых папулярных газет Украіны "Киевские ведомости" пра тое, што генеральны дырэктар Украінскага цэнтра мастацтва ў Маскве пан Палянін прызначаны віцэ-прэзідэнтам маючага адбыцца ў Віцебску чарговага песеннага кірмашу... І па ўсім відаць, што чытала яго і аўтарка артыкула ў "Украіні молодій", таму ў яе такая ўпэўненасць у новай перамозе ўкраінскіх выканаўцаў... Хочацца гэтым артыкулам перасцерагчы беларускіх удзельнікаў фестывалю як з боку арганізатараў, членаў журы, так і маладых выканаўцаў, каб яны мелі на ўвазе той факт, што пан Палянін ужо задоўга да пачатку фестывалю робіць усё магчымае і немагчымае, каб украінская дэлегацыя была "цэнтрам" фестывалю. Дапусціць гэтага нельга ані ў якім разе: усе павінны быць у аднолькавым становішчы, і на старыя "перамогі" не трэба звяртаць аніякай увагі.

Я ўсе гады сачу за віцебскім песенным кірмашом і магу смела сказаць, што ўкраінскія "пераможцы" амаль не выдзяляліся ад "прайграўшых". Усё вырашалася ў асяроддзі журы, дзе людзі не заўсёды аб'ектыўна ацэньвалі выступленні, асабліва беларускіх спевакоў, маўляў, беларусы-- людзі талерантныя, не пакрыўдзяцца, а вось нельга разгнявіць ці па рыўдзіць самалюбівь украінцаў, крый Божа, яшчэ пакінуць удзел у кірмашы!.. Як пазбегнуць суб'ектыўнага судзейства ў Віцебску -- вось над чым павінны сёння задумацца арганізатары чарговага кірмашу... А "славянабазар ная" эйфарыя на старонках украінскай прэсы асабіста ў мяне выклікала пачуццё сарамлівасці: штодзённа па радыё Кіева, на УТ-1, УТ-2 я магу чуць, як спяваюць былыя і будучыя ўдзельнікі гэтага "базару". "Базар -- ён і ёсць базар"...

**Пятрусь КАПЧЫК, філолаг.**

Ізяслаў, Украіна.

# ПАМЯЦЬ ПРА П.СЕРГІЕВІЧА

Напрыканцы траўня віленскія беларусы ўрачыста адкрылі шыльду на вуліцы Антакальне, 30, на доме, дзе сорак два гады жыў і тварыў беларускі жывапісец і графік, стваральнік цэлай галерэі мастацкіх вобразаў славутых сыноў нашай зямлі і простых людзей -- Пётра Сергіевіч. Дошку з барэльефам мастака выканаў вядомы скульптар з Мінска Хведар Іванчанка. На ўрачыстасцях выступіў старшыня Таварыства беларускай культуры ў Вільні спадар Хведар Нюнька. Дзякуючы менавіта сп. Х.Нюньку, яго намаганням, была зроблена і адкрыта дошка П.Сергіевічу. Выступілі таксама віленчукі, якія ведалі мастака -- Лявон Луцкевіч і Аляксей Анішчык.

Як чалавек і мастак Пётра Сергіевіч фарміраваўся ў складаных умовах Заходняй Беларусі 20--30 гадоў -- у Вільні. На духоўны свет будучага мастака паўплывала малая радзімы -- вёска Стаўрова, якая мясцілася каля Богінскага возера. Тут, у матчынай хаце, ён атрымаў суровыя ўрокі жыцця, тут раскрылася яго душа лясам і азёрам.

Калі ў 1920 годзе П.Сергіевіч вычытаў у віленскай газеце, што адкрываецца універсітэт, а ў ім мастацкі факультэт, то адразу страціў душэўны спакой. Паехаў у Вільню і пачаў шукаць запаветны факультэт, трапіў адразу да яго дэкана Фердынанда Рушчыца. Мастак еўрапейскай славы, строгі і патрабавальны, аказаўся вельмі даступным і зычлівым чалавекам. Уважліва разгледзеў эцюды, прынесеныя Пётрам, адзін купіў сабе на памятку, сказаў прыносіць неабходныя дакументы для залічэння на вучобу. Вучыцца ў самога Рушчыца -- такога і не снілася хлопцу з Браслаўшчыны. Майстэрства партрэтыста, партрэтны жанр стане вядучым у творчасці будучага беларускага мастака, які П.Сергіевіч спасцігаў у другога жывапісца, педагога Штурмана, майстра рэпінскай школы. Нейкі час вучыўся ў прафесара Панкевіча ў Кракаўскай акадэміі мастацтва. Але зусім нядоўга, бо не было сродкаў. Прыйшлося вярнуцца дадому. Жыў то ў Вільні, то ў вёсцы Стаўрова.

На пачатку XX стагоддзя, другі раз пасля скарынінскіх часоў, у Вільні адраджалася беларускае слова, беларуская думка. Разбуджаная душа народа выяўляла сябе ў паэзіі, прозе, мастацтве. Дзесьці ў 1932 годзе П.Сергіевіч стаў членам Віленскага саюза незалежных мастакоў. "Шляхам жыцця" Сергіевіча -- гэта вобраз даваеннай Заходняй Беларусі. У 30-я гады П.Сергіевіч піша мужчынскія партрэты віленскіх беларускіх дзеячаў: А.Луцкевіча, А.Станкевіча, Ст. Глякоўскага. У канцы 30-х -- пачатку 40-х гадоў мастак піша шэраг жаночых партрэтаў. Пры канцы вайны фашысты спалілі вёску Стаўрова, дзе была матчына хата -- дымелі галавешкі. Мастак разам з землякамі, што засталіся, капаў брацкую магілу, шукаў па лесе двух падлеткаў, якіх не было ні сярод забітых, ні сярод жывых. У Вільні ў яго засталася майстэрня, сюды ён і перабраўся жыць. П.Сергіевіч напісаў шэраг партрэтаў беларускіх дзеячаў: М.Забэйды-Суміцкага, К.Каліноўскага, Янкі Шутовіча, А.Клімовіча, Антона Шантыра, працы, прысвечаныя Ф.Скарыну, Я.Купалу і іншым. Працы мастака набылі многія музеі свету. Колькі было войнаў, пераваротаў на вяку мастака, але ён здолеў захаваць унутраную свабоду і незалежнасць поглядаў. Сваімі творамі П.Сергіевіч узбагаціў беларускую духоўную скарбніцу.

**Леакадзія МІЛАШ.**

Вільнюс.

# ПРА БЕЛАРУСАЎ У ТАНЗАНІІ

З вялікай цікавасцю прачытаў артыкул спадарыні Уліцёнак пад назваю "Пашукаем алмазы ў Танзаніі".

У 1942--1949 гадах у Танзаніі (тады Танганіка), Радэзіі, Угандзе, Паўднёвай Афрыцы, Індыі, Ліване, Палесціне, Новай Зеландыі жыло многа беларусаў. Былі гэта пераважна кабеты з дзецьмі, старыя, няздольныя да войска. Як гэта сталася? Як яны, беларусы, там апынуліся?

У 1939 годзе ў Заходнюю Беларусь прыйшлі Саветы. "Вызваленне" ці "освобождение" пачалося арыштамі і масавымі вывазамі невінаватых людзей на Поўнач, у Сібір, Казахстан. Першы масавы вываз быў 10 лютага 1940 года. Вывозілі цэлыя сем'і, старых, дзяцей, хворых — без розніцы. Вывозілі пераважна на "лесарубку" ў Архангельскую вобласць, у Казахстан. У гэты ж дзень вывезлі і нашу сям'ю — 8 душ (потым вывезлі і яшчэ адну асобу — дзевятую, якая на той час была вельмі хворая.

У 1941 годзе, пасля нападу Нямеччыны на СССР, у Лондане быў падпісаны дагавор паміж польскім экзыльным урадам і СССР аб звальненні з лагераў былых польскіх грамадзян.

Па звальненні, а сярод іх быў вялікі працэнт беларусаў, гэтыя людзі накіраваліся ў Сярэднюю Азію, дзе фармавалася польская армія пад камандаваннем генерала У.Андэрса. Потым, у 1942, многія з гэтых беларусаў і іхнія сем'і выехалі ў Іран. З Ірана дзяцей, кабет і г.д., тых, хто не быў у арміі, паразвозілі па ўсім свеце і ў краіны, пра якія я ўспомніў вышэй. Ды яшчэ і ў іншыя.

Але вернемся да Танзаніі, дзе былі мая маці, бабка і тры сястры. Найвялікшым местам для гэтых людзей была мясцовасць Tengeru каля гарадка Arusha. У гэтым лагеры (Tengeru) было вельмі многа беларусаў. Быў там і праваслаўны святар, айцец светлай памяці Міхаіл Бажар'янаў. Пабудавалі там прыходскую царкву і культурны клуб для моладзі. У царкве іконы намаляваў адзін італьянскі мастак -- ваеннапалонны. Царква мураваная, можа стаіць і па сённяшні дзень.

А М.Бажар'янаў быў вельмі адукаваным і актыўным святаром. Быў родам з Вільні, дзе, можа быць, і па сённяшні дзень жывуць яго родныя. Памёр ён у 1946 годзе. Пахавалі яго ў Dar es Salaam (Танзанія). Думаю, што сумныя словы песні "...И родные не узнают, где могила моя..." поўнасцю адносяцца да светлай памяці айца Міхаіла. Коратка тут успомню, што ў 80-я гады я напісаў ліст да праваслаўнай царквы ў Вільні і паведаміў, дзе магіла айца Міхаіла. На мой ліст ніхто не адгукнуўся...

У 1948--1950 гадах гэтыя лагеры ў Афрыцы пачалі ліквідоўваць. Людзі раз'язджаюцца па новых краінах, каб спалучыцца з сем'ямі, а потым зноў выязджаюць ужо на "пастаяннае" месца жыхарства.

Думаю, шаноўная спадарыня Уліцёнак, што гэты кароценькі ліст аб беларусах у Афрыцы будзе для вас не толькі цікавы, але і навіной. На жаль, аб гэтых людзях (беларусах), якіх нядобры лёс параскідаў па ўсім свеце, мала пішацца і мала ведаецца.

З пашанай

**Міхаіл ШВАДЗЮК.**

Англія.

# 50-ты З'ЕЗД ЗБВБ

50-ты агульны з'езд Згуртавання беларусаў у Вялікай Брытаніі адбыўся 25-га траўня 1996 года ў залі пры Беларускай бібліятэцы імя Францішка Скарыны, упрыгожанай кветкамі і гістарычнай беларускай сімволікай -- Пагоняй і бел-чырвона-белым сцягам. Яго адкрыў заступнік старшыні сп. М.Дзейка. Усхваляваным голасам паведаміў прысутным на з'ездзе аб раптоўнай смерці старшыні ЗБВБ светлай памяці А.Зданковіча. Сп. Дзейка звярнуўся да айца Надсона традыцыйна адкрыць з'езд малітвай "Ойча наш" з прысутнымі за поспех з'езда. Пасля малітвы мінутай цішыні была ўшанавана памяць старшыні.

Паводле парадку з'езда была выбрана мандатная камісія. Наступна прайшлі выбары прэзідыума з'езда. У яго ўвайшлі сп. М.Швадзюк -- старшыня, сакратары -- доктар Гурня і сп. А.Лашук. У парадку дня было 17 пунктаў. Многа часу заняла дыскусія над справаздачамі. Важныя пункты ў справаздачах былі: інфармацыя фінансавая ЗБВБ; інфармацыя з дзейнасці харытатыўнай секцыі пры ЗБВБ; справаздачы адміністратараў дамоў ЗБВБ у Лондане, Манчэстэры, Брадфардзе.

Прайшлі выбары галоўнай управы. Выбраны на старшыню ЗБВБ юрыст Еўдакімаў. Заступнік старшыні -- інжынер Я.Ясвіловіч, сакратар -- доктар Гурня, скарбнік-бухгалтар П.Асіповіч. Сябры ўправы -- сп. Дзейка і Лёля Міхалюк. Воплескамі з'езд прывітаў нававыбраную ўправу.

У 16-м пункце парадку з'езда "Розныя справы" прысутнымі сябрамі былі закрануты сумныя для беларускага народа весткі з бацькаўшчыны аб падзеях у Мінску, дзе 26 красавіка мірная дэманстрацыя "Чарнобыльскі шлях-96" была крывава разагнаная амонаўцамі і міліцыяй. З'езд прыняў рэзалюцыю, каб апеляваць да ўрада Вялікабрытаніі і Арганізацыі Аб'яднаных Нацый асудзіць такія нялюдскія адносіны да свайго народа.

З'езд закончыўся спяваннем гімна "Мы выйдзем шчыльнымі радамі", пасля пачастункамі, прыгатаванымі нястомнымі сяброўкамі ЗБВБ.

**С.БУДКЕВІЧ.**

Англія.

# ПЕРАСЫХАЕ КРЫНІЦА БЕЛАРУСКАСЦІ

(Працяг. Пачатак на 1-й стар.).

Горад размешчаны на паўднёвым узбярэжжы Аўстраліі, цягнецца амаль на сотню кіламетраў з-за таго, што людзі жывуць не ў шматпавярховых гмахах, а ў асобных дамках. Усё жыццё краіны сканцэнтравана на паўднёвым і ўсходнім узбярэжжы, тут размешчаны і найбуйнейшыя гарады -- Сідней, Мельбурн, Адэлаіда, Перт. Ва ўсіх названых гарадах жывуць нашы суродзічы.

Выразна адчуваецца, што знаходзішся на другім канцы свету. У нас прыходзіць вясна, а тут восень, калі ў нас дзень -- тут ноч, паўднёвы вецер халодны, а паўночны -- цёплы. Што чакае нас тут, як будзем пачувацца ў гэтым чужым для нас свеце? Пільна ўглядаемся ў натоўп сустракаючых, ці патрэбныя мы тут каму. Бачым высокім узломам знаёмы сцяг і групку людзей каля яго ў вышыванках. Наш сцяг і нашы людзі -- аўстралійскія беларусы. Цёплыя прывітанні і родная гаворка, прыемная, сакавітая, не скалечаная чужым вымаўленнем. Усе страхі перад нязведанай краінаю ўмомант знікаюць. Здаецца, што мы дома, у Беларусі, хіба што снегу нідзе не відаць. Не верыцца, што 20 тысяч кіламетраў аддзяляюць нас ад Бацькаўшчыны. Тут часцінка Беларусі.

Пачуццё крэўнай роднасці, душэўная шчырасць, сяброўская падтрымка і дапамога суправаджалі нас падчас усяго падарожжа. Нашы суродзічы стараліся як мага лепш забяспечыць наш побыт і шырокае знаёмства з краінаю, якая стала для іх прытулкам і другой радзімаю.

Беларускія эмігранты прыехалі ў Аўстралію ў канцы саракавых гадоў. У асноўным з лагераў дэпартаваных асоб у Нямеччыне. Працавалі спачатку на вельмі цяжкіх работах, крок за крокам ладзілі сваё жыццё, нажывалі маёмасць. Цяпер яны маюць забяспечаную будучыню. А тады ратаваліся як маглі. У Мельбурне будавалі свае ўласныя дамкі грамадою, спачатку аднаму, а потым другому. Памяталі пра такі звычай на радзіме, як "талака". Аўстралійцы жывуць вельмі абасоблена, таму шчыра дзівіліся такой нязвыклай для іх з'яве. Нават у мясцовых газетах пісалі пра беларускую "талаку".

Беларускае жыццё ў Аўстраліі наладжвалася хоць і з вялікімі цяжкасцямі, але імкліва і грунтоўна. Тут дзейнічалі вельмі актыўныя скаўцкія арганізацыі. Выдаваліся часопісы, кнігі. Ладзіліся раз у два гады сустрэчы беларусаў Аўстраліі. Беларуская грамада прымала ўдзел у грамадскім жыцці краіны побач з іншымі нацыянальнымі меншасцямі. Пабудавалі за свае грошы беларускія дамы і цэрквы. Утварыліся і распачалі сваю дзейнасць беларускія арганізацыі, большасць з якіх працуюць і зараз. У мэтах каардынацыі дзейнасці і прадстаўлення інтарэсаў усіх беларусаў у 1976 годзе была створана з удзелам 13 беларускіх арганізацый Федэральная рада беларусаў Аўстраліі. Зараз яна месціцца ў Мельбурне, і яе ўзначальвае Яўген Груша. Акрамя гэтага ў Мельбурне існуюць Беларускі Цэнтральны камітэт у Вікторыі (старшыня -- Павел Гуз), Беларуская цэнтральная рада (пасля смерці прэзідэнта Міхася Зуя выбары яшчэ не праводзіліся), Прадстаўніцтва Рады БНР (старшыня -- Міхась Нікан), Беларускі нацыянальны фонд (старшыня -- Сідлярэвіч), Беларускі вызвольны фронт (старшыня -- Алег Шнэк), кааператыў Беларускага дому (старшыня -- Сідлярэвіч), Беларускі жаночы камітэт у Вікторыі (старшыня -- Жэня Сідлярэвіч), Беларускі сацыяльны клуб (старшыня -- Рыгор Шэйпак), вакальны гурток "Каліна".

У Сіднеі асноўную ролю па арганізацыі беларускай грамады выконвае Беларускі сацыяльна-культурны клуб на чале з Міхасём Лужынскім. У Адэлаідзе дзейнічае Беларускае аб'яднанне ў Паўднёвай Аўстраліі, старшыня -- Мікола Колес. У Перце арганізацыйную працу вядзе Беларуская аб'яднанне ў Заходняй Аўстраліі, старшыня -- сп. Раецкі (малодшы).

Аўстралія -- краіна эмігрантаў. Таму ў ёй паважаюць інтарэсы ўсіх нацыянальных груп, якія там жывуць. Спецыяльна для іх патрэбаў створана асобная дзяржаўная тэлерадыёкампанія Сі-Ді-Эс (SDS) у Сіднеі. Гэта адзіны сёння прыклад у свеце. У яе склад уваходзяць нацыянальныя рэдакцыі, у тым ліку і беларуская. Колькасна большыя нацыянальныя групы маюць радыё і тэлерэдакцыі, беларусы -- толькі радыё. Беларуская праграма выходзіць раз у тыдзень, у суботу, з 9 да 10 гадзін раніцы. Час зручны, многія яе слухаюць. Загадвае рэдакцыяй прадстаўнік новай эміграцыі з Беларусі -- Вячаслаў Елкановіч, былы мінчанін. Ён прайшоў жорсткі конкурс, перш чым трапіць на гэтую пасаду, і зараз робіць сваю справу адказна і рупліва, беларусы ў Сіднеі паважаюць яго.

Доўгія гады працавала беларускае прыватнае радыё ў Перце (Паўднёва-Заходняя Аўстралія), арганізаванае спадарамі Раецкімі. На жаль, лёс гэтага радыё пад вялікім пытаннем.



**НА ЗДЫМКУ: беларуская царква ў Мельбурне, у цэнтры -- а. М. БУРНОС і а. М. КУЛАКОЎСКІ.**

(Працяг будзе).

## АЛЕСЬ БУРБІС: АД "МЕЙШАГОЛЬСКАЙ РЭСПУБЛІКІ" ДА БССР

# ЁН ХАЦЕЎ АДКРЫЦЬ ВОЧЫ СВАЙМУ НАРОДУ

А потым быў снежаньскі (1917 года) Усебеларускі кангрэс, разгон яго бальшавікамі. Бурбіс успрыняў гэты факт з абурэннем: захапіўшыя ўладу прыхільнікі Леніна афіцыйна далі дазвол на яго правядзенне. "Ён быў балюча ўражаны гэтым, лічачы акт роспуску кангрэса справаю, якая не адпавядае абвешчаным прынцыпам Савецкае ўлады ў нацыянальным пытанні", -- напісаў З.Жылуновіч. Зазначу, ён зрабіў гэта праз дзесяць гадоў, у 1927 годзе, калі ўслых казаць і пісаць такія словы нават Жылуновічу было больш чым небяспечна!

Дзейнасці рады з'езда А.Бурбіс адкрыта спачуваў. А калі быў заснаваны Народны сакратарыят Беларускай Народнай Рэспублікі, вясной 1918 года яго прызначылі прадстаўніком у Маскве. Часта прыязджаў ён з дакладамі і паведамленнямі ў акупіраваны Мінск, са спецыяльнымі заданнямі ўрада БНР наведваў Кіеў і іншыя гарады, дзе знаходзілі прытулак беларусы-бежанцы. Ён па-ранейшаму быў выдатным прамоўцам, умелым арганізатарам і выканаўцам самых розных спраў.

Як піша В.Круталевіч, звесткі аб назначэнні А.Бурбіса консулам трапілі ў друк. Заснавальнік Беларускай сацыялістычнай грамады апынуўся ў двухсэнсоўным становішчы. "Дзянніца" змясціла фельетон на гэты конт. У пісьме ў "Дзянніцу" А.Бурбіс адмаўляў, што ён выконваў абавязкі "консула", але не адмаўляў факта назначэння яго на гэту "пасаду", а Мінск і Кіеў, маўляў, наведаў як "свабодны грамадзянін"; А.Бурбіс яўна адмяжоўваўся ад БНР.

У гэты бурлівы, цяжкі, складаны час ён зноў актыўна ўключыўся ў беларускі нацыянальна-палітычны рух, але ў 1917—1918 гадах не заўсёды правільна разумеў падзеі, палітыку бальшавіцкай партыі. Для яго, як і для многіх іншых прадстаўнікоў інтэлігенцыі, гэта быў перыяд "блукання па пакутах".

Летам 1918 года ў час польскай акупацыі Мінска сабраліся на вечарынку на адной з кватэр пісьменнікі, артысты, палітычныя дзеячы, прыгадвала ўсё тая ж Палута Бадунова. Чыталі ўрыўкі з твораў, гаварылі палымяныя прамовы, спявалі беларускія рэвалюцыйныя песні. Потым пачаў гаварыць Бурбіс:

-- Некалісь мы з Цёткай Пашкевічанкай хадзілі па менскіх фабрыках і заводах і звалі ўсіх работнікаў да забастовак. Цётка памерла. Засталіся другія. Мы сядзелі за гэта ў менскім астрозе. А выйшаўшы, не кінулі, не апусцілі ў гразь наш рэвалюцыйны чырвоны штандар. Не, мы зноў паднялі яго высока і панеслі к народу, клічучы яго на змаганне за волю, за зямлю, за роўнасць людскую. Мы аслаблі ў гэтыя часы, сілы часта нас пакідаюць, змаганне, голад і турмы змучылі нас, высушылі нашы грудзі. Некаторыя мае сябры пакінулі ўжо гэты свет. Але ж мы стварылі вас, новых маладых працаўнікоў. Вы выйшлі нам дапамагчы, нас замяніць. Памятайце ж: не кідайце і вы рэвалюцыйнага сцяга, пакуль не скажа наш народ і іншыя прыгнечаныя народы:"Мы вольныя і роўныя..."

Ваганні А.Бурбіса закончыліся ў канцы 1918 года, калі савецкая ўлада прызнала своечасовым стварэнне Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі.

Утварэнне БССР Бурбіс-сацыяліст (у лепшым значэнні гэтага слова) прызнаў, ён стаў на бок Савецкай улады. Наколькі гэта было цвёрдае і непахіснае перакананне і рашэнне (прынамсі, той жа Зміцер Жылуновіч у шчырасці намераў і меркаванняў Алеся Лаўрэнавіча не сумняваўся ніколькі), меркаваць сёння няпроста. Адназначна, тым не менш, іншае: ён быў за свабоднае незалежнае жыццё беларускага народа, за беларускую справу. А.Бурбіс уключыўся ў навуковую працу. Яго запрасілі да падрыхтоўкі ўмоў Рыжскага міру з Польшчай. У 1920 годзе А.Бурбіс працуе ў камісіі Мархлеўскага па распрацоўцы Рыжскага мірнага дагавора, тады ж ён быў і адным з рэдактараў газеты "Савецкая Беларусь", што выходзіла ў Смаленску.

Дзейнасць А.Бурбіса вызначаецца разнастайнасцю. Неардынарныя веды ў галіне эканомікі дазволілі яму напісаць фундаментальнае даследаванне "Краткий очерк по экономической географии Белоруссии". "Нарыс" Бурбіса пачынаў сапраўднае вывучэнне эканомікі краю дзеля яго далейшага росквіту. Асаблівы націск робіцца на каланіяльны характар гаспадарання царызму. У "Нарысе" А.Бурбіс упершыню ў гісторыі нашай навукі апісаў Беларускі тэрытарыяльна-гаспадарчы комплекс, прааналізаваў гаспадарчыя сувязі нашага краю з іншымі рэгіёнамі Расіі, першы з беларускіх навукоўцаў разлічыў гандлёвы баланс Беларусі. "Гэтая праца далёкая ад халоднага ілюстравання -- у ёй адчуваецца гарачы, імпульсіўны характар чалавека, які ад імя свайго народа прад'яўляе рахунак старому часу", -- адзначыў у эсэ "Світка Буйніцкага" Рыгор Семашкевіч. Разам з Я.Дылам і Ф.Турукам А.Бурбіс падрыхтаваў дакладную запіску па гісторыі Беларусі ў Народны камісарыят замежных спраў РСФСР (выкарыстана Туруком у яго кнізе "Беларускі рух". 1921). Погляды Бурбіса на гісторыю Беларусі выкладзены ў артыкуле "Кароткі агляд беларускага нацыянальна-рэвалюцыйнага руху", які быў надрукаваны ў "Вестнике Народного Комиссариата просвещения" N 1—2 за 1921 год. Беларускі нацыянальны рух, паводле Бурбіса, меў глыбокія карані "ў мінуўшчыне, палітычным жыцці Беларусі, у яе эканамічных, этнаграфічных і лінгвістычных асаблівасцях". Бурбіс падкрэсліваў, што беларускі народ захаваў рысы асобнай нацыі -- "сваю мову, звычаі, свой самастойны культурны і эканамічны лад жыцця".

А.Бурбіс займаў шэраг адказных пасад ва ўрадзе маладой Беларускай рэспублікі. Спачатку яго накіравалі ў Наркамзем, потым (1 ліпеня 1921 года) прызначылі намеснікам народнага камісара замежных спраў Беларусі. Як дыпламат прапагандаваў у перыядычным друку неабходнасць кансалідацыі ўсіх плыняў беларускага нацыянальнага руху, у тым ліку і на эміграцыі. На пасадзе намесніка народнага камісара замежных спраў Беларусі ён аддае свае апошнія сілы працы на карысць Беларусі і не на словах толькі, а і на справе выяўляе сябе гарачым прыхільнікам роднай беларускай мовы -- Камісарыят замежных спраў быў першым камісарыятам на Беларусі, які з ініцыятывы А.Бурбіса пачаў весці ўсё справаводства толькі на беларускай мове.

А.Бурбіс удзельнічаў у распрацоўцы, а пазней -- разам з іншымі прадстаўнікамі беларускага ўрада і падпісанні Дагавора паміж БССР і РСФСР.

У лістападзе 1921 года Ляхаўскі райкам КП (б)Б (усяго ў Мінску таго часу было 3 райкомы) прымае А.Бурбіса ў партыю. Яго ўводзяць у члены ЦВК Беларусі. Ён быў адным з арганізатараў і членам праўлення таварыства Чырвонага Крыжа БССР.

Здавалася, наперадзе такое цікавае, карыснае для горача любімаў ім Бацькаўшчыны жыццё, грамадска-палітычная дзейнасць. Але ўсяму гэтаму не суджана было збыцца. 20 сакавіка 1922 года ў гатэлі з незвычайна гучнай для Мінска назвай "Парыж" на 37 годзе жыцця Алесь Бурбіс памёр ад сухотаў. У апошні шлях -- на Старажоўскія могілкі -- праводзіла яго шмат мінчан. Яго родная газета "Савецкая Беларусь" у нумары ад 22 красавіка 1922 года пісала: "Беларусь! Пакрыйся сёння жалобай і йдзі на свежую магілу, у якой без пары зляглі косці Твайго вернага -- аж да скону. Твайго чыннага, аж да апошніх сіл, сына і змаганніка за Тваё адраджэнне -- Алеся Бурбіса. Ідзі на магілу, каб там сказаць апошняе дзякуй -- ...плакаць".

Асоба Алеся Бурбіса з яго кіпучым характарам, адвагай, аддавасцю рэвалюцыйнай справе -- уражвае. Ён нібы спяшаўся жыць, прадчуваючы жорсткасць лёсу, які падорыць яму толькі 37 гадоў. Тыя, хто сустракаўся з Бурбісам, не маглі не захапіцца ім. Палута Бадунова ўспамінала, што "няма такой меры, якую можна было б прылажыць да яго бязмернай гарачага пачуцця дзеля справы народнай. Ні каваныя дзверы, ні краты астрожные не адарвалі яго ад працы для роднай, загубленай ворагамі старонкі. Ні ў будні, ні ў нядзелі не ведаў ён спакою, дбаючы аб адным: як ратаваць сваю бацькаўшчыну ад заняпаду, ад цемры і здзеку?

І не можа быць такой меры, якая б паказала, як моцна кахаў ён народ свой. Здаецца, ніколі ў яго не было іншай мэты, іншага перакання, як толькі жаданне адкрыць вочы свайму люду на праўдзівае становішча, падняць яго -- цёмнага, забітага, абдуранага -- да вышыні поўнай вольнасці і разумення агульначалавечых інтарэсаў. Вывесці народ свой на шлях светлага і шчаслівага існавання -- гэта галоўная мэта яго кароткага, поўнага працы, жыцця.

...Ён любіў свой народ, але любіў яго разумнай, светлай любоўю, якая не перашкаджала яму любіць чалавецтва".

Добра сказана аб паплечніку: шчыра, цёпла, сумленна...

...Ён любіў народ, і наша памяць і любоў да яго павінны сёння адрадзіцца.

**Мікалай БАНДАРЭНКА, кандыдат гістарычных навук.**

Заканчэнне. Пачатак у NN 24--26.

## МАСТАЦТВА ГОІЦЬ







Аб'яднанне "Мастацтва. Экалогія і Я", ці скарочана "МЭЯ", з'явілася нядаўна ў Гомелі. Падставай для яго стварэння ў Беларусі, экалогія якой асабліва пацярпела ад аварыі на Чарнобыльскай АЭС, паслужыў праект "Мастацтва ў бальніцы", прадстаўлены ЮНЕСКА. Ён прадугледжвае лячэнне хворых з дапамогай твораў мастацтва. "МЭЯ" за кароткі час правяла ўжо некалькі выставаў і цяпер рыхтуе яшчэ адну -- у абласной псіхіятрычнай бальніцы.

НА ЗДЫМКАХ: першыя члены творчага аб'яднання "МЭЯ" мастакі Святлана КУРАШОВА, Уладзімір АНДРЭЯНАЎ і Ларыса ЗУЕВА; работы членаў аб'яднання -- габелен "Экалогія" і кераміка "Браслаўскія азёры".

Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА.

## МІЖНАРОДНЫ СІМПОЗІУМ ПА СПАДЧЫНЕ

11 чэрвеня ў Скарынаўскім цэнтры адбылося чарговае пасяджэнне камісіі "Вяртанне" Беларускага фонду культуры. На ім абмяркоўвалася правядзенне Міжнароднага сімпозіума "Гістарычная, матэрыяльная і духоўная спадчына беларускага народа, яе захаванне, выкарыстанне і вяртанне".

Грошы на правядзенне Міжнароднага сімпозіума выдзеліла ЮНЕСКА. Паколькі праблемай вяртання перамешчаных культурных каштоўнасцей Беларусі займаецца Скарынаўскі цэнтр, то пры ім вырашылі стварыць Арганізацыйны камітэт і рабочае бюро па правядзенню сімпозіума, які адбудзецца 14--15 кастрычніка гэтага года.

На выдзеленыя сродкі будзе набыты камп'ютэр і створана праграма для ўводу ў камп'ютэр базы даных пра страчаныя Беларуссю каштоўнасці. Чатыры тысячы долараў вырашылі выдзеліць на навукова-пошукавыя доследы аб страчаных каштоўнасцях у час 1-й і 2-й сусветных войнаў і на вывучэнне вопыту Аўстрыі і Венгрыі ў галіне юрыдычных распрацовак Міжнароднага права па вяртанню перамешчаных каштоўнасцяў.

Мяркуецца, што на гэтыя сродкі будуць даследаваны архівы Віленскага беларускага фонду, Пражскі беларускі замежны архіў, які цяпер знаходзіцца ў Маскве, а таксама беларускія мастацкія каштоўнасці, што знаходзяцца ў Дзяржаўным Эрмітажы Санкт-Пецярбурга.

У рамках гэтага Міжнароднага сімпозіума будуць дзейнічаць дзве мастацкія выставы. Адна будзе прысвечана 115-м угодкам з дня нараджэння Івана Луцкевіча -- вядомага беларускага грамадскага дзеяча, стваральніка Беларускага музея ў Вільні на аснове ўласнага збору твораў. Яе арганізуе Нацыянальны музей гісторыі і культуры Беларусі. Другая выстава прысвячаецца 100-м угодкам з дня нараджэння пачынальніка беларускага мастацтвазнаўства Мікалая Шчакаціхіна, якую арганізуе Дзяржаўны мастацкі музей Рэспублікі Беларусь.

Да адкрыцця Міжнароднага сімпозіума мяркуецца выдаць за кошт выдзеленых сродкаў ЮНЕСКА кнігу Міхаіла Шумейкі "Некаторыя аспекты рассеяных беларускіх каштоўнасцяў", а таксама трэці зборнік артыкулаў аб страчаных каштоўнасцях пад назвай "Вяртанне--3". Ён быў падрыхтаваны пры садзейнічанні грамадскай камісіі "Вяртанне" Беларускага фонду культуры і часовага творчага калектыву Скарынаўскага цэнтра.

Віталь Скалабан -- сябра камісіі "Вяртанне" пры БФК, паведаміў, што быў удзельнікам Санкт-Пецярбургскай канферэнцыі, прысвечанай праблеме вяртання страчаных Беларуссю каштоўнасцяў, яе правяла С.-Пецярбургская беларуская суполка пад назвай "Санкт-Пецярбург і беларуская культура". Такім чынам беларусы Піцера далучыліся да пошукавай дзейнасці ў галіне страчаных Беларуссю каштоўнасцяў.

**Мая ЯНІЦКАЯ.**

## СТВАРАЕЦЦА МУЗЕЙ ІГНАТА ДАМЕЙКІ

Першыя экспанаты для ствараемага музея нацыянальнага героя Чылі, вядомага вучонага-даследчыка Ігната Дамейкі, на базе Мядзвядскай базавай школы, што ў Карэліцкім раёне, сабраны вучнямі і настаўнікамі школы ў час экскурсіі па Гродзенскай вобласці.

Нагадаю, што ў вёсцы Мядзвядка ён нарадзіўся, з дзяцінствам і юнацтвам нашага слыннага земляка цесна звязаны мясціны: Мір, Сталавічы, Далматаўшчына, Навагрудак, Дзятлава, Ліда, Заполле. З 1838 года больш 50 гадоў Дамейка стала жыў і працаваў у Чылі. І.Дамейка шэсць разоў перасякаў найвышэйшы горны ланцуг Паўднёвай Амерыкі -- Анды, дзякуючы рознабаковым ведам вучонага-даследчыка мінералогіі знайшоў там юрскія адкладанні, даказаў, што гліны Чылі і Бразіліі -- трацічнага паходжання. Ён адкрыў і даследаваў багатыя залежы медных руд і каменнага вугалю ў Чылі. Адзін з першых арганізатараў здабычы каменнага вугалю ў Чылі.

І. Дамейка пакінуў значны навуковы здабытак. Яго пяру належаць успаміны пра А.Міцкевіча, яго блізкага сябра, кніга пра філаматаў і філарэтаў. А ў 1903 годзе выйшаў збор яго навуковых прац у пяці тамах.

Памяць І.Дамейкі ўвекавечана залатым медалём і помнікам у Сант'яга. Вучоныя таксама не абышлі ўвагай яго заслугі. Нямецкі мінеролаг Гандыйгер адкрыты Ігнатам Дамейкам мінерал назваў "Дамейкітам", вядомы французскі палеантолаг Д'арбіні адзін са скамянелых малюскаў назваў "Наўцілус Дамейкус", чылійскі батанік горную фіялку назваў "Вісла Дамейкуана". Імя яго ўвекавечана ў іншых назвах. Тысячакіламетровы горны хрыбет, які некалі называўся Атакамскія Кардыльеры, цяпер носіць назву Кардыльер Дамейкі, яго імем названы і два гарады ў Чылі.

Ушаноўваюць яго памяць і на радзіме. Нядаўна мядзвядскай школе прысвоена імя гэтага знакамітага даследчыка. Ёсць экспазіцыя ў раённым краязнаўчым музеі, аб каштоўнасці даследчыцкіх прац Ігната Дамейкі ўзгадваецца і падчас традыцыйных карэліцкіх краязнаўчых чытанняў.

Дарэчы, на гэты раз Трэція краязнаўчыя чытанні адбыліся ў чэрвені і былі прымеркаваны да 200-х угодкаў з дня нараджэння аднаго са славутых землякоў Яна Чачота.

**Пётр ЖЭБРАК.**

Карэліцкі раён.

*З КНІЖНАЙ ПАЛІЦЫ*

# ДЗЯЦІНСТВА Ў ПОЛЫМІ ВАЙНЫ

Пятро Васючэнка -- з кагорты даследчыкаў канкрэтных. Агляд яго папярэдняй літаратуразнаўчай, літаратурна-крытычнай працы ўпэўнівае, што знаўца сучаснай і класічнай беларускай літаратуры ў сваіх вопытах доследу, аналізу з'яўляецца дакладным, прадметна акрэсленым ці -- акрэслена ўважлівым да пэўнага прадмета. Здольнасць быць уважлівым да канкрэтнага, рэальнага, акрэсленага выяўляецца і ў апошняй невялікай па памеру кнізе Пятра Васючэнкі "Пошукі страчанага дзяцінства". У падзагалоўку -- удакладненне абсягаў даследавання: "Беларускія празаікі "сярэдняга пакалення" аб Вялікай Айчыннай вайне".

На пачатку працы літаратурны крытык старанна тлумачыць абумоўленасць свайго выбару. І вось што пры гэтым зазначае: "...літаратары -- "дзеці вайны", далёкія ад адназначнай гераізацыі ваенных падзеяў, унеслі свой настрой, знайшлі свой ракурс бачання трагічных падзеяў. Пакаленне беларускіх празаікаў у асобах В.Адамчыка, В.Казько, І.Пташнікава, Б.Сачанкі, Я.Сіпакова, М.Стральцова, І.Чыгрынава вылучыліся падабенствам жыццяпісаў, лёсаў, паслядоўным пошукам формаў мастацкага асваення матэрыялу, адназначнасцю антываеннага гучання твораў. Разам з тым творчая асоба кожнага з іх глыбока непаўторная, надта адрозныя сферы жанравага, стылёвага пошуку творцаў". І яшчэ: "Шасцідзесятнікі" -- апошняе пакаленне літаратараў, якое бачыла вайну на свае вочы. Наступныя пакаленні літаратараў мусяць скарыстоўваць ускосны досвед. Якой будзе будучая літаратура пра другую сусветную вайну? Даследаванне творчага досведу "сярэдняга" пісьменніцкага пакалення пасрыяе "дакладнасці літаратуразнаўчага прагнозу". Ізноў жа -- дакладнасці!

Праз усё даследаванне праходзіць клопат літаратуразнаўца пра асаблівасць дзіцячага засваення ваеннага вопыту ці хутчэй -- пра адштурхоўванне (кажучы па-руску, "отторжение") вайны як з'явы жахлівай, жудаснай, непрымальнай для нармальнага развіцця жыцця. Асаблівы акцэнт (і гэтаму прысвечаны ўвесь першы раздзел кнігі) П.Васючэнка робіць на псіхалагічны аналіз дзіцячага бачання вайны. Пры гэтым падрабязнае тлумачэнне атрымлівае тэрмін "падвойнае бачанне". "Выбар у якасці персанажа, назіральніка ці апавядальніка дзіцяці, здольнасць дзіцячага "я" ўспрымаць і "рэтрансляваць" убачанае, вылучэнне наіўнага, дзіцячага пачатку ў асобе дарослага апавядальніка -- характэрныя ўласцівасці "падвойнага бачання", -- патлумачвае аўтар. Літаратуразнаўца ў якасці аргументацыі прыцягвае вопыт сусветнай літаратуры, пашыраючы тым самым абсягі гучання нацыянальнай прозы (тут Пятро Васючэнка выступае як вучань і дастойны спадкаемца Алеся Адамовіча, Міхася Тычыны).

Псіхалагічная аснова дзіцячага бачання, прозы "дзяцей вайны" -- вось што падрабязна разглядае П.Васючэнка. Упэўнімся ў характары, сутнасці псіхалагічнай асновы, псіхалагічных першаштуршкоў, то зразумелым стануць і многія вобразы-адкрыцці, і нават многія дэталі.

Аўтар пдакрэслівае і тое, што, безумоўна, уплывае на змест твораў Б.Сачанкі, В.Казько, І.Пташнікава, І.Чыгрынава: "Дзіцячая памяць фрагментарная, выбарачная. Яна моцная не колькасцю зафіксаваных уражанняў, але "жывучасцю" асобных момантаў, вастрынёй рэакцыі на ўбачанае". Памяць, генерыраваная ў мастацкую праўду, захоўвае дакументальнага кшталту праўду. Цяжка пісаць (і сапраўднаму таленту гэта немагчыма!) у жанры фантазіі пра вайну. Можна толькі адцяняць колеры, але немагчыма прыдумваць. Таму і такой уражлівай, сардэчна-праніклівай з'яўляецца праца творцы над дзіцячай споведдзю пра вайну. Як, прыкладам, у Віктара Казько. "Заканчваў я "Судны дзень". Сядзець ужо не мог. То стаяў, то падаў на калені над аркушамі паперы. Напружанне было невыноснае. Сам матэрыял мяне абпальваў. Ад апошніх старонак мяне адвезла "хуткая". Трапіў на месяц у шпіталь. Перанёс дзве аперацыі... Вось гэта і ёсць тыя самыя боль, кроў і слёзы... Зусім матэрыяльныя", -- прызнаецца празаік.

П.Васючэнка працай сваёй, заглыбленным у псіхалагічную падаплёку нараджэння тых ці іншых твораў яшчэ і яшчэ раз акцэнтуе ўвагу на выснове, што ж з'яўляецца галоўным у доўгажыхарстве літаратурнай, мастацкай з'явы, акрамя, безумоўна, самой мастацкасці, -- маральнасць, турботы мастака за душу чалавечую, перажыванні. А яны прысутнічаюць і тады, калі нават герой вызначаецца жаданнем помсціць. Як, прыкладам, заўважае П.Васючэнка, у аповесці рускага празаіка У.Багамолава "Іван", каторы "толькі закрануў гэтае цяжкае маральнае пытанне ў сваёй аповесці, вывеўшы вобраз падлетка, апантанага жорсткім жаданнем помсціць, не робячы выключэння ні для кога з ворагаў. Пісьменнік не абвінавачвае свайго героя. Увесь цяжар віны за скалечанае дзяцінства, за жорсткасць, не ўласцівую дзіцячай натуры, бяруць на сябе дарослыя персанажы, перадусім рэфлексуючы герой-апавядальнік.

Аналізуючы ваенную прозу "шасцідзесятнікаў", П.Васючэнка спрабуе зазірнуць у заўтра. А ці будзе заўтра такой пільнай увага да Вялікай Айчыннай? "Новы эпас, -- піша крытык, -- пра другую сусветную вайну, пра трагедыю Беларусі ў ёй, з асвятленнем "белых плямаў" і супярэчнасцяў гісторыі -- справа будучыні. Разам з тым і сёння працягваюць з'яўляцца творы, дзе супярэчнасці ваеннага быцця яшчэ не разглядаюцца пад кутом халоднай аб'ектывізацыі, але -- прапускаюцца праз эмоцыю, праз боль". А што ж будзе заўтра? Што напішуць пра вайну тыя, хто нарадзіўся ў шасцідзесятыя, у сямідзесятыя, тыя, каму сёння яшчэ толькі адкрываць напісанае, выве装ранае, вынесенае з уласнага жыцця Б.Сачанкам, В.Казько, І.Пташнікавым, М.Стральцовым? Якой будзе вайна для А.Федарэнкі, А.Наварыча, Б.Пятровіча, Г.Багданавай?..

Кніга П.Васючэнкі "Пошукі страчанага дзяцінства" з'явілася наўздзіў своечасова. Даследаванне ўяўляецца яшчэ і напамінкам з выразнай адамовічаўскай інтанацыяй -- не забыць! І не проста не забыць перажытае, пераасэнсаванае В.Казько і яго равеснікамі-літаратарамі, "дзецьмі вайны", а не забыць саму вайну, зразумець усю яе нелагічнасць у сусвеце жыццёвай, стваральнай прасторы, стваральнай нават у смерці, калі яна ёсць лагічнае завяршэнне нашага быцця.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

## КОНКУРС ДЗІЦЯЧАЙ КАРЫКАТУРЫ







**Конкурс дзіцячых карыкатур прайшоў у Віцебску. Яго ўдзельнікі -- школьнікі горада і вобласці -- прадставілі на суд гледачоў свае творы. Журы адзінагалосна прысудзіла першае месца вучню Бароўскай сярэдняй школы Лепельскага раёна Кастусю Капусцяну.**

**НА ЗДЫМКАХ: работы Кастуся КАПУСЦЯНА.**

**Фота Аляксандра ХІТРОВА.**

## *СПОРТ*

МАСТАЦКАЯ ГІМНАСТЫКА. У Будапешце прайшоў чэмпіянат свету. Выдатна тут выступіла мінчанка Ларыса Лук'яненка. Яна ўзнагароджана залатым медалём за практыкаванне са скакалкай, а за камбінацыю з мячом -- сярэбраным.

СУЧАСНАЕ ПЯЦІБОР'Е. Італія стала месцам правядзення першынства свету па гэтым цікавым відзе спорту. Вялікага поспеху на ім дамаглася гамяльчанка Жанна Шубянок, якая набрала лепшую суму ачкоў і апярэдзіла галоўных саперніц -- польку Д. Ідзі і расіянку Л. Суворaву.

СЯМІБОР'Е. Прыемная навіна прыйшла з Германіі. Беларуская спартсменка Наталля Сазановіч выйграла спаборніцтва за Кубак Еўропы. У сямібор'і наша зямлячка набрала 6 466 ачкоў.

У камандных спаборніцтвах нашы дзяўчаты аказаліся на другім месцы.

**ПАВАЖАНЫЯ СЯБРЫ!**

**Вы часта пытаецеся, як падпісацца на газету "Голас Радзімы" за межамі Беларусі. На жаль, да гэтага часу не створана службы, якая б гэтым стала займалася.**

**Аднак усе, каму падабаецца выданне і хто жадае яго падтрымаць, могуць дасылаць свае ахвяраванні на наступны рахунак у Белзнешэканомбанку: выдавецтва "Полымя" (для газеты "Голас Радзімы") р/р 3 012 000 376 001, код банка 226, код "Полымя" 153 001.**

| Country, Bank, City | CURRENCU SWIFT CODE | ACCOUNT N |
|---|---|---|
| **U.S.A.** | | |
| REPUBLIC NATIONAL BANK OF NEW YORK, NY. | USD [illegible]US 33 | 608-206-830 |
| BANK OF NEW YORK, NEW YORK | USD [illegible]JS3N | 890-0057-025 |
| **GERMANY** | | |
| DEUTSCHE BANK AG., FRANKFURT/MAIN | DEM DEUTDEFF | 949806400 |
| COMMERZBANK, FRANKFURT/MAIN | DEM COBADEFF | 4008866311 |
| DRESDNER BANK AG., FRANKFURT/MAIN | DEM [illegible]ESDEFF | 8 138 023 00 |
| **FRANCE** | | |
| EUROBANK, PARIS | FRF EUROFRPP | 01514001 |
| **AUSTRIA** | | |
| CREDITANSTALT-BANKVEREIN, VIENNA | ATS CABVATWW | 0101-63798/00 |
| **ITALY** | | |
| CARIPLO, MILAN | ITL CARIITMF | 69467/018 |
| **SWITZERLAND** | | |
| CREDITSUISSE, ZURICH | CHF CRESCHZZ | 902236-73 |
| **GREAT BRITAIN** | | |
| MIDLAND BANK PLC., LONDON | GBP MIDLGB22 | 35687907 |

**БАНК "УКРАИНА"** Киев 000170080
МФО300454

**КАЗАХСТАН (казахстанские тенге)**

**"АЛЕМ БАНК КАЗАХСТАН"** Алматы 169313-146
**АБ "КАЗКОММЕРЦБАНК"** Алматы 034169309

К/с 700161724 в ГАТУ НБ РК
МФО 190501109
Примечание: код 724 для расчетов с банками г. Алматы и Алматинской, Жамбылской, Талдыкорганской областей; код 109 -- для расчетов с банками других обл. Казахстана

**ЛАТВИЯ (латвийские латы)**

**РИЕТУМУ БАНК** Рига 000164077

**ЛИТВА (литовские литы)**

**БАНК "СНОРАС",** Шауляй 169309
--МФО 260101758
к/с 700161458 в РКЦ Литвы

**КЫРГЫЗСКАЯ РЕСПУБЛИКА (кыргызские сомы)**

**АКБ "КЫРГЫЗКРАМДСБАНК"** Бишкек 076162014
-- МФО 330107719

**МОЛДОВА (молдавские леи)**

**БАНК "MOLDINDCONBANK" S.A.** Кишинев 34168402
-- к/с 300166025 в РЦ НБМ, код 280101325

**ПРИМЕЧАНИЕ :** любезная просьба регулярно связываться с отделом корреспондентских отношений для уточнения реквизитов.
Тел.: 238-11-36, 238-12-40, 238-12-39
Факс: 226-48-09

**Список корреспондентских счетов "Ностро" Белвнешэкономбанка в ограниченно конвертируемых валютах в странах СНГ и Балтии (май 1996 г.).**

**ОССИЯ (российские рубли)**

**МКБ "МЕЖКОМБАНК"** Москва 7632125
-- для прямых расчетов по Москве и обл.: МФО 997641, уч. КР
-- для иногородних расчетов: ГРКЦ ГУ ЦБ РФ по Москве, корр. счет 143161100, МФО 201791 или 44583001

**АКБ "Международная Финансовая Компания"** Москва 001632370
-- для прямых расчетов по Москве и обл.: МФО 995320 или 44531882, ул. L5
-- для иногородних расчетов: корр. счет 882161200 в ЦОУ ЦБ РФ Москвы, МФО 299112

**АБ "ИНКОМБАНК"** Москва 151632423
-- для прямых расчетов по Москве и обл.: МФО 998736, уч. 5С
-- для иногородних расчетов: корр. счет 502161000 в РКЦ ГУ ЦБ РФ Москвы, МФО 201791

**АКБ "КОНВЕРСБАНК"** Москва 422100007
-- для прямых расчетов по Москве и обл.: МФО 998468, участник TD
транзитный счет N 904098
-- для иногородних расчетов: корр. счет 921161200 в ЦОУ ЦБ РФ Москвы
МФО 299112 или МФО 44531000

**АБ "Нижегородский банкирский дом"** Нижний Новгород 3632934
-- кор. счет 700161405 в РКЦ ГУ ЦБ РФ по Нижегородской области
-- МФО 116002 код 705 (по Нижегородской области).

**УКРАИНА (украинские карбованцы)**

**КБ "ПРИВАТБАНК"** Днепропетровск 1170136
-- кор. счет 700161306 в обл. Управлении НБУ
МФО 305299

**Адрас: аддзела карэспандэнцкіх зносін: Беларусь, 220050 Мінск, вуліца Мяснікова, 32, Белзнешэканомбанк.**

**Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ**

**ЗАСНАВАЛЬНІК:**
**Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").**



**НАШ АДРАС:**
**220005, Минск, праспект Ф. Скарыны, 44.**

**Тэлефоны: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.**



**Газета набрана і звярстана ў камп'ютэрным цэнтры рэдакцыі газеты "Вечерний Минск".**
**Аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77).**
**Тыраж 3 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 663.**
**Падпісана да друку 1.7. 1996 г.**